*Вызвольны рух. Артыкул Зянона Пазьняка (стар 4) Рэзалюцыя Еўрапейскага парламента наконт дзейнасці няўрадавых арганізацый у Беларусі (стар. 3)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Наклад 36.270
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Аўторак, 17 чэрвеня 1997 | № 64 | Кошт свабодны

## Адамовіч свае дзесяць месяцаў адседзеў

*Засталося аплаціць судовыя выдаткі*

У мінулую пятніцу калегія Віцебскага абласнога суда пад старшынствам Леаніда Гурко вынесла прысуд па справе паэта Славаміра Адамовіча.

Суд прызнаў яго вінаватым у напісанні і распаўсюджванні верша «Убей президента». Аднак дзеянні падсуднага былі перакваліфікаваныя з 67-га артыкула Крымінальнага кодэкса (заклік да тэрарыстычнага акта супраць вышэйшай службовай дзяржаўнай асобы) на артыкул 188 (зняважа дзяржаўнай службовай асобы). Рэдактар газеты «Выбар» Барыс Хамайда, які надрукаваў гэты верш і праходзіў з С.Адамовічам па адной справе, лічыць, што такім чынам суддзі вырашылі прадставіць палітычную справу як чыста крымінальную.

Апрача таго, суд прызнаў С.Адамовіча вінаватым па артыкулах 15 і 80 КК — спроба незаконнага пераходу дзяржаўнай мяжы паміж Беларуссю і Літвой. У выніку С.Адамовічу вызначаны менавіта такі тэрмін пакарання, які паэт ужо адседзеў у следчым ізалятары (10 месяцаў); суддзі залічылі папярэдняе зняволенне ў тэрмін пакарання.

Такім чынам, паэт Славамір Адамовіч пакінуў будынак суда свабодным чалавекам. Цяпер яму трэба яшчэ аплаціць некаторыя судовыя выдаткі, у прыватнасці — працу перакладчыкаў, якія перакладалі яго словы падчас паседжанняў суда з беларускай мовы на рускую.

*БелаПАН*

## Канcіліум сабраўся

**Учора ў Мінск прыбылі прадстаўнікі Еўрасаюза і Савета Еўропы для ўдзелу ў кансультацыях паміж прэзідэнцкай адміністрацыяй і Вярхоўным Саветам.**

Сёння тры «тройкі» павінны сесці за стол перамоваў, каб зацвердзіць парадак работы.

Міністр замежных справаў Іван Антановіч, які ўзначальвае прэзідэнцкую «тройку», заявіў журналістам на брыфінгу, што прэзідэнцкая дэлегацыя не дазволіць рабіць прадметам абмеркавання новую канстытуцыю або вынікі лістападаўскага рэферэндуму. На думку Антановіча, абмеркаванне можа весціся толькі на тэму далейшага ўдасканалення заканадаўчай і прававой сістэмы краіны.

Акрамя таго, прэзідэнцкі бок не задаволены складам парламенцкай «тройкі», у якую прэзідыум ВС дэлегаваў Г.Карпенку, М.Грыба і П.Краўчанку.

На думку Антановіча, Вярхоўны Савет *«павінен быць прадстаўлены адэкватна»*: адзін чалавек ад групы Шарэцкага; адзін — ад тых дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якія цяпер прадстаўляюць нацыянальны сход; адзін — ад тых сарака дэпутатаў, якія выказалі жаданне працаваць у новым парламенце, але не трапілі ў яго склад. Тыя ж, каго прапанаваў старшыня Вярхоўнага Савета Шарэцкі, заявіў міністр замежных справаў, хочуць з дапамогай міжнародных арганізацый «вярнуцца да ўлады». На думку І.Антановіча, апазіцыю прадстаўляюць не яны, а існуючыя ў рэспубліцы партыі і грамадскія арганізацыі. Калі канфлікт з вызначэннем кандыдатур апазіцыйнай часткі працоўнай групы не будзе да панядзелка вычарпаны, прадстаўнікі беларускіх уладаў маюць намер, па словах міністра замежных справаў, прапанаваць запрасіць у склад гэтай «тройкі» кіраўніка асноўных палітычных апазіцыйных сіл Беларусі — БНФ, камуністаў ад абедзвюх беларускіх камуністычных партый (ПКБ і КПБ). Дыялог з тымі, хто дамагаецца ўлады арганізацыйным канстытуцыйным шляхам, падкрэсліў Антановіч, і да якіх ён аднёс вышэйпералічаныя партыі, будзе «сапраўды канструктыўным».

## Міліцыя канспектуе прэзідэнцкія дэкрэты

У міліцыі горада Асіповічы Магілёўскай вобласці пачаліся цяжкія часы. Начальства загадала, каб кожны міліцыянт канспектаваў усе дэкрэты прэзідэнта.

Пісьмовых распараджэнняў не было, але супрацоўнікі мусяць завесці спецыяльныя сшыткі і карпатліва занатоўваць прэзідэнцкія загады. Прычым не толькі тыя, што датычаць непасрэдна працы міліцыі, але і ўсе іншыя. Цяпер у міліцэйскіх сшытках ёсць сціслы пераказ указаў і пра Акадэмію навук, і пра жывёлагадоўлю, і пра грамадскія працы.

**Іван ЗАСАДА**

## Вячорку апраўдалі

**Апраўдальным прыгаворам скончыўся ў пятніцу ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска крымінальны працэс над намеснікам старшыні БНФ Вінцуком Вячоркам.**

В.Вячорка абвінавачваўся ў *«аказанні ціску на работніка міліцыі»* падчас правядзення мітынгу 24 сакавіка 1996 г. у гонар гадавіны абвяшчэння БНР. Уся віна Вячоркі была ў тым, што на мітынгу ён некалькі разоў звярнуўся праз мегафон да падпалкоўніка міліцыі Дразда з патрабаваннем вызваліць з-пад арышту студэнта Віталя Рымашэўскага.

На працягу двух дзён судовага паседжання суддзя Аляксандр Брагін (вядомы сваім удзелам у працэсах супраць С.Шарэцкага і В.Шчукіна) заслухаў паказанні сведак — як міліцыянтаў, так і прадстаўнікоў БНФ Алеся Бяляцкага і Вячаслава Сіўчыка, а таксама довады адваката Надзеі Дударавай. Пракурор Бабкіна патрабавала для Вячоркі максімальнага пакарання, прадугледжанага па гэтым артыкуле Крымінальнага кодэкса (адзін год папраўчых работ), аднак суддзя А.Брагін, разабраўшыся з матэрыяламі справы і прагледзеўшы відэазапіс звароту Вячоркі да падпалкоўніка, прыйшоў да высновы, што падсудны звяртаўся да міліцыянта для таго, каб утрымаць пад кантролем дзеянні ўдзельнікаў шматтысячнага мітынгу.

На наступны дзень быў зачытаны прыгавор, паводле якога Вінцук Вячорка быў апраўданы з-за адсутнасці ў ягоных дзеяннях складу злачынства.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Супольная заява беларускіх палітычных партыяў

У выніку гвалтоўнага разгону легітымнага парламента дыктатарскі лукашэнкаўскі рэжым апынуўся ў становішчы міжнароднай ізаляцыі. Ніводная краіна свету, акрамя Расіі, не прызнала законным парламентам прызначаны Лукашэнкам «нацыянальны сход». На небяспеку замацавання дыктатуры ў Беларусі звярнула ўвагу Рада Еўропы, якая прапанавала сваё пасрэдніцтва ў перамовах паміж прэзідэнцкай галіной улады і легітымным Вярхоўным Саветам 13-га склікання.

Сітуацыя вымушае Лукашэнку шукаць спосабы дэзарыентаваць сусветную і беларускую грамадскую думку, каб дамагчыся прызнання вынікаў антыканстытуцыйнага перавароту 24 лістапада 1996 г. Апошні ягоны тактычны ход — агучаная 11 чэрвеня заява аб гатоўнасці весці перамовы не з Вярхоўным Саветам, а з палітычнымі партыямі. Заява гэтая — правакацыйная, бо яна мае на мэце знішчыць або прынамсі падважыць легітымнасць Вярхоўнага Савета і тым самым Канстытуцыі 1994 году рукамі палітычных партыяў.

Ад імя сваіх партыяў мы пацвярджаем, што прызнаём легітымнай толькі Канстытуцыю 1994 года і адпаведна разглядаем як легітымны орган заканадаўчай улады толькі Вярхоўны Савет 13-га склікання. У становішчы канстытуцыйнага крызісу, куды загнаў нашу краіну рэжым Лукашэнкі, маюць сэнс толькі перамовы дзвюх галінаў улады — прэзідэнцкай і Вярхоўнага Савета — аб рэальным вяртанні дзеяння Канстытуцыі 1994 г.

*Ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі*
**Мікола СТАТКЕВІЧ**
*Ад БНФ «Адраджэньне»*
**Лявон БАРШЧЭЎСКІ**
*Ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі*
**Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ**
*13 чэрвеня 1997 г.*

## Лісічкі – ягады – дружба

*Поспех грыбной дыпламатыі*

Сёлета нямецкая фірма «Бярнэс Кансэрвэн» з Гамбурга зноў паўтарыла сваю замову Лельчыцкаму лясгасу Гомельскай вобласці на пастаўку лісічак. Замоўлена ажно 32 тоны лясных дэлікатэсаў (летась было 27 тон). Цікава, што нямецкія аптавікі выказалі гатоўнасць закупіць і партыю палескіх ягад. Тое, што немцы не баяцца радыяцыі, вельмі задавальняе палешукоў — сотні іх гэтым летам будуць прачэсваць родныя лясы і балоты ў пошуках надзейнай дабаўкі да сямейнага бюджэту. Як кажуць, і немцам добра, і нам някепска. Адным словам — фройндшафт.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Бяляцкага пасадзілі на трое сутак

**У нядзелю ў Мінску быў арыштаваны старшыня сталічнай арганізацыі Беларускага народнага фронту Алесь Бяляцкі — дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча.**

Каля шасці гадзінаў вечара на кватэру Бяляцкага прыйшлі тры міліцыянты і прад'явілі яму судовае рашэнне: аказваецца, яшчэ ў сакавіку суддзя Савецкага райсуда г.Мінска Ігар Крывалапаў завочна асудзіў А.Бяляцкага на трое сутак арышту за ўдзел 25 студзеня ў несанкцыянаваным шэсці (гэта была акцыя «Мінск—Сафія—Бялград»).

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

### КАДРЫ

## На Тройцу – на траіх



## Дзірка ў нямецкім самалёце

**Нямецкая авіякампанія *Lufthansa* падлічвае ўрон, нанесены ёй у аэрапорце «Мінск-2».**

У нядзелю, 8 чэрвеня, пагрузчык мінскага аэрапорта ўрэзаўся ў рэйсавы самалёт «Боінг» авіякампаніі *Lufthansa*, які рыхтаваўся да вылету ў Франкфурт-на-Майне. Корпус авіялайнера пад лабавым шклом увагнуты амаль на метр. У выніку аварыі самалёт быў разгерметызаваны і не мог выконваць рэйс.

У Мінск з Франкфурта-на-Майне тэрмінова прыбыла спецкаманда, якая занялася папярэднім рамонтам «Боінга». Справа зацягнулася прыкладна да чатырох гадзін ночы. У час аварыі пасажыраў на борце «Боінга» не было. Іх давялося адвезці ў гатэль на таксі і накарміць, за ўсё гэта заплаціла авіякампанія *Lufthansa*.

У панядзелак пасажыры вылецелі іншым рэйсавым самалётам. У гэты ж дзень пабіты «Боінг» разам са спецкамандай быў перапраўлены ў Франкфурт-на-Майне, дзе ў рамонтным цэнтры працягвалася аднаўленне самалёта. Толькі ў пятніцу, 13 чэрвеня, «Боінг» змог выканаць першы рэйс.

У мінскім офісе *Lufthansa* паведамілі, што за пяць гадоў працы ў Беларусі падобнай аварыі яшчэ не здаралася. Кампанія панесла значныя страты, памер якіх цяпер удакладняецца. «Боінг» авіякампаніі *Lufthansa* застрахаваны ў Кёльне, але магчыма, што мінскаму аэрапорту давядзецца выплаціць вялікую суму грошай за пашкоджанне нямецкага авіялайнера.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Сёмуха – Зялёныя святы

**У мінулую нядзелю вернікі праваслаўнай канфесіі святкавалі Сёмуху (Тройцу).**

Гістарычна гэта — старажытнае паганскае свята спелай вясны, і ў некаторых мясцовасцях яно так і называецца — Зялёныя святы. Пачынаецца яно Сёмушнымі дзядамі, калі памінаюць памерлых продкаў, на поўдні Беларусі свята суправаджаецца абрадам «ваджэння куста», калі самую прыгожую дзяўчыну вёскі апранаюць у своеасаблівы святочны строй з зяляніны і кветак. Паўсюль у Беларусі ў гэтыя дні прынята прыбіраць хаты і двары аерам, галінкамі бярозы, клёна ці рабіны. Звычайна ў хаце на покуці альбо каля веснічак ставяць бярозку, а на падлозе сцелюць аер.

За доўгія стагоддзі развіцця хрысціянства ў Беларусі паганскае свята, якое фактычна замыкае вясновы цыкл каляндарных абрадаў, было прымеркаванае праваслаўнай царквой да Тройцы (Пяцідзесятніцы, Сёмухі). Тройца прыпадае на 50-ты дзень (сем поўных тыдняў) пасля Вялікадня, і ў гэтае свята ўслаўляецца сашэсце на Хрыстовых апосталаў Святога Духа ў выглядзе вогненных языкоў, апісанае ў Евангеллі. Гэты момант звычайна называюць нараджэннем царквы. На Тройцу прынята прыбіраць зелянінай і цэрквы, вернікі прыносяць на набажэнствы кветкі, аер і галінкі дрэваў — такі вось беларускі сінтэз паганства і хрысціянства.

**Віталь МЕЛЕЦ**

# Рэзалюцыя Еўрапейскага парламента

## *Аб перашкодах дзейнасці няўрадавых гуманітарных дабрачынных арганізацый у Беларусі*

**Еўрапейскі парламент адзначае:**

— прэзідэнт Лукашэнка выдаў 10 сакавіка 1997 года дэкрэт, які ставіць пад пытанне падатковыя льготы, што былі прадастаўленыя дабрачынным арганізацыям рашэннем Савета міністраў ад 28 кастрычніка 1996 г.; арганізацыі, якія займаюцца гуманітарнай дапамогай, у Беларусі фактычна прыроўніваюцца да камерцыйных фірмаў;

— беларускія ўлады прынялі дзве пастановы (1672/12 міністэрства па надзвычайных сітуацыях і 1710/12 міністэрства аховы здароўя ад снежня 1996 г.), якія супярэчаць Канстытуцыі Беларусі, закону аб грамадскіх арганізацыях і аб'яднаннях, міжнародным стандартам у галіне грамадзянскіх правоў; гэтымі пастановамі ўводзяцца настолькі жорсткія ўмовы і правілы, што яны робяць дастаўку міжнароднай гуманітарнай дапамогі ахвярам Чарнобыльскай катастрофы практычна немагчымай;

— гуманітарныя грузы сістэматычна і беспадстаўна затрымліваюцца на беларускай мяжы, ад дабрачынных арганізацый патрабуюць, каб яны заплацілі падаткі і пакрылі высокія кошты складзіравання грузаў; у выніку значная частка харчовых грузаў і медыкаментаў сапсавалася;

— міжнародныя няўрадавыя арганізацыі не маюць магчымасці бесперашкодна размяркоўваць гуманітарную дапамогу ў Беларусі;

— беларускія ўлады ствараюць перашкоды Фонду «Дзецям Чарнобыля», які каардынуе дзейнасць больш чым 500 міжнародных і 72 мясцовых дабрачынных арганізацый, галаслоўна абвінавачваюць Фонд у злачынствах, выдаюць пастановы на арышт кіраўнікоў Фонду, у выніку чаго некаторыя з іх вымушаныя шукаць абароны ў Германіі;

— беларускія ўлады антызаконна выслалі з краіны выканаўчага дырэктара Фонда Сораса і арыштавалі банкаўскі рахунак арганізацыі, змушаючы Фонд прыпыніць сваю дзейнасць у Беларусі;

— адміністрацыя Лукашэнкі стварае перашкоды няўрадавым арганізацыям, якія арганізоўваюць аздараўленне дзяцей з радыяцыйна забруджаных зонаў за мяжой, адмаўляючы ім у праве самастойна вызначаць спісы дзяцей на аздараўленне;

— няўрадавыя арганізацыі ў Беларусі практычна не маюць магчымасці супрацьстаяць самавольству ўладаў, праследаванню і рэпрэсіям супраць актывістаў гэтых арганізацый; судовая сістэма знаходзіцца пад кантролем уладаў; сродкі масавай інфармацыі прыцясняюцца ўладамі, над некалькімі незалежнымі газетамі вісіць пагроза закрыцця, замежныя карэспандэнты гвалтоўна высылаюцца з краіны.

**Беручы пад увагу адзначанае, раней прынятыя рэзалюцыі ў дачыненні да Беларусі і дэкларацыі Савета Еўропы, Еўрапейскі Парламент:**

1) **заклікае прэзідэнта** Лукашэнку адмяніць свой дэкрэт ад 10 сакавіка 1997 года з мэтай стварэння для няўрадавых арганізацый, што займаюцца прыцягненнем гуманітарнай дапамогі, нармальных ўмовах работы, аднавіць падатковыя льготы для дабрачынных арганізацый;

2) **заклікае ўрад Беларусі** неадкладна спыніць шантаж супраць беларускіх і заходніх няўрадавых арганізацый, звязаных з гуманітарнай дапамогай; гарантаваць замежным супрацоўнікам гэтых арганізацый, што яны свабодна могуць знаходзіцца ў Беларусі і працягваць сваю дзейнасць без страху якога-небудзь праследавання, перашкодаў або ўмяшання з боку ўладаў;

3) **заклікае ўрад Беларусі** забяспечыць свабодны і бесперашкодны доступ гуманітарнай дапамогі ў краіну, а таксама не перашкаджаць няўрадавым дабрачынным арганізацыям у размеркаванні гуманітарнай дапамогі ў Беларусі;

4) **заклікае беларускае кіраўніцтва** праводзіць ясную і паслядоўную прававую палітыку ў дачыненні да няўрадавых арганізацый у адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі, каб мясцовыя органы ўлады і мытныя органы не маглі прымяняць супраць дабрачынных арганізацый неабгрунтаваных санкцый;

5) **патрабуе ад беларускіх уладаў** адмяніць пастановы 1672/12 і 1710/12 ад снежня 1996 года, якія парушаюць Канстытуцыю Беларусі і правы грамадзянаў; прыняць новыя правілы на аснове міжнародных стандартаў, што дазволіць няўрадавым арганізацыям нармальна працягваць сваю дзейнасць;

6) **патрабуе ад уладаў** спрыяць, а не перашкаджаць арганізацыі аздараўлення дзяцей, што жывуць у радыяцыйна забруджаных зонах; дабрачынныя арганізацыі маюць поўнае права самастойна вызначаць спісы дзяцей для аздараўлення за мяжой, усялякае ўмяшанне ў гэты працэс з боку ўладаў павінна быць спыненае;

7) **у чарговы раз пацвярджае** сваю пазіцыю, што ніякае далейшае супрацоўніцтва паміж Еўрапейскім Саюзам і Беларуссю не будзе магчымым да таго часу, пакуль улады Беларусі не зробяць выразных канкрэтных крокаў у напрамку захавання правоў чалавека і рэформы заканадаўства;

8) **накіроўвае гэтую рэзалюцыю** у Камісію еўрапейскіх супольнасцяў, у Савет Еўропы, а таксама прэзідэнту, ураду і дэмакратычна абранаму параламенту Беларусі — Вярхоўнаму Савету.

**Страсбург,**
**12 чэрвеня 1997 г.**

# БЕЛОРУССКИЙ ФОНД СОРОСА

## НАПОМИНАЕТ

# БЕЛОРУССКОМУ ГОСУДАРСТВУ

За время деятельности Белорусского фонда Сороса **с января 1993 года до весны 1997-го** на реализацию многочисленных проектов и поддержку различных инициатив белорусских граждан и организаций было затрачено **около 13 млн. долларов США.** **Кто получил эти деньги?** **Ответ однозначен — Беларусь.**

Фонд финансировал те общественно значимые начинания, расходы на которые не может позволить себе наше государство. Тем не менее, именно государственными структурами на Белорусский фонд Сороса необоснованно наложен **штраф в размере почти 3 млн. американских долларов.**

Мы тоже готовы предъявить свой счёт белорусским властям. **13 миллионов долларов США.** Можно, конечно, исключить из этой суммы «негосударственную» часть – средства, затраченные на поддержку общественных организаций, свободных деятелей искусства, частных инициатив. Но даже при таком, более чем условном, делении **расходы на финансирование государственных структур и работников государственных учреждений составляют 7 миллионов 551 тысячу долларов США. Эта сумма вдвойне превышает размер штрафа,** который предъявил Белорусскому фонду Сороса **самый крупный его грантополучатель — белорусское государство.**

**Вот перечень поддержанных Белорусским фондом Сороса «государственных» проектов, на которые у государства денег не нашлось:**

**Международная Соросовская программа образования в области точных наук - $ 1.511.000**

**$ 972.000** – стипендии 6 Заслуженным Соросовским профессорам, 30 Соросовским профессорам, 58 Соросовским доцентам, 360 Соросовским учителям, 117 Соросовским аспирантам, 569 Соросовским студентам
**$ 210.000** – покупка компьютеров и оргтехники для 63 школ
**$ 104.000** – проведение республиканских и международных олимпиад и научных конференций школьников
**$ 82.000** – покупка учебной литературы, которая была безвозмездно передана 92 школам Беларуси, 201 учреждению Министерства образования и 120 Соросовским учителям
**$ 68.000** – подписка школьных библиотек на периодические издания по точным наукам
**$ 52.000** – проведение педагогических семинаров и конференций
**$ 23.000** – издание учебной литературы

**Международный научный фонд - $ 1.382.000**

**$ 784.000** – поддержка 91 проекта белорусских ученых в рамках программы долгосрочных грантов
**$ 598.000** – программа срочной помощи ученым; участие белорусских ученых в международных конференциях и симпозиумах; поддержка библиотек

**Программа "Шаг за шагом" - $ 1.021.000**

Эти средства были затрачены на организацию и содержание 15 экспериментальных детских садов (3,5 тысячи детей) и 15 средних школ и гимназий (538 детей участвуют в учебном эксперименте) в разных регионах Беларуси:
**$ 434.000** – учебная мебель
**$ 169.000** – дополнительное питание для детей
**$ 97.000** – зарплата и материальные поощрения работников детских садов и школ
**$ 93.000** – игрушки
**$ 66.000** – тренинги для преподавателей
**$ 54.000** – учебные материалы, пособия, канцтовары
**$ 39.000** – лекарства и витамины
**$ 34.000** – обучение родителей
**$ 19.000** – ремонт школ и дошкольных учебных заведений
**$ 11.000** – экскурсии, визиты в театр, цирк
**$ 5.000** – научное наблюдение за детьми

**Программа «Обновление гуманитарного образования» - $ 781.000**

**$ 359.000** – поддержка государственных учебных заведений (покупка оборудования, учебников, компакт-дисков с обучающими программами, подписка на периодические издания)
**$ 242.000** – премии победителям конкурсов: учебников и учебных пособий; опубликованных научных работ; молодых гуманитариев (студенты, аспиранты, преподаватели государственных вузов, сотрудники научно-исследовательских институтов Академии наук Беларуси, учителя средних школ, сотрудники государственных музеев)
**$ 91.000** – издание научной и учебной литературы
**$ 89.000** – создание информационного центра при библиотеке им. Я. Купалы (компьютерная и множительная техника, видеоаппаратура, учебная литература, компакт-диски с обучающими программами)

**Программа «Медицина и здоровье» - $ 655.000**

**$ 342.000** – поддержка 12 проектов-победителей конкурса "Инициативы в области охраны здоровья"
**$ 278.000** – поддержка 32 проектов, поданных различными структурами государственного здравоохранения
**$ 35.000** – участие 28 белорусских медиков в Зальцбургском семинаре врачей

**Программа «Интернет» - $ 550.000**

Создание, при активном участии вычислительно-аналитического центра Министерства образования Республики Беларусь, опорной IP-сети в виде оптоволоконного кольца с узлами на 7 телефонных станциях. Благодаря этому более 100 некоммерческих организаций социальной сферы (учреждения образования, науки, культуры) получат доступ к сети Интернет.

**Программа «Стажировки и поездки» - $ 398.000**

**$ 392.500** – финансирование более 600 поездок белорусских ученых, преподавателей, деятелей искусства и культуры на международные форумы
**$ 5.500** – стипендии подпрограммы «Восходящая звезда» одаренным детям, которые успешно представляют Беларусь на международных конкурсах

**Программа «Экология» - $ 333.000**

поддержка 43 проектов-победителей конкурсов «Экологизация природопользования», «Экологическое образование школьников», «Экологическое образование студентов», а также таких общественно значимых проектов, как «Создание открытой геоинформационной системы Республики Беларусь» и «Улучшение экологической ситуации в бассейне реки Западная Двина»

**Программа «Искусство полемики» («Дебаты») - $ 221.000**

обучающие семинары для учителей, покупка литературы для школ, проведение турниров и летних лагерей для школьников

**Молодежная программа - $ 144.000**

поддержка 80 проектов-победителей конкурсов, связанных с проведением выставок, конкурсов и семинаров; научно-техническим и художественным творчеством молодежи; созданием информационных центров по вопросам профессиональной ориентации и занятости; организацией дискуссионных, литературных, научных, историко-этнографических, театральных клубов; волонтерским движением; просвещением в области охраны здоровья и экологии.

**Программа «Образование» - $ 119.000**

**$ 79.000** – поддержка проектов-победителей конкурсов «Организация практических семинаров для работников образования», «Использование электронных информационных сетей в учебном процессе», «Семья и школа», «Школьные газеты и журналы»
**$ 40.000** – оборудование для школ и вузов

**Программы по искусству и культуре - $ 118.000**

поддержка 20 проектов, в том числе - Международного конкурса пианистов «Минск-96», ряда музейных экспозиций и журналов культурного направления

**Программа поддержки фундаментальных наук - $ 89.000**

финансовая поддержка победителей конкурсов и проведения крупномасштабных научных конференций

**Программа «Обучение здоровому образу жизни» - $ 77.000**

**$ 35.000** – издание учебников «Правильное питание», «Профилактика курения», «Профилактика алкоголизма и наркомании», «Профилактика СПИДа», «Половое воспитание» для безвозмездной передачи средним школам республики
**$ 10.000** – проведение 45 семинаров-тренингов для учителей
**$ 5.000** – подготовка и издание учебных пособий для начальной школы «Человек и общество», «Человек и его здоровье»
**$ 3.000** – проведение 3 республиканских конференций и 6 обучающих семинаров по проблемам обучения здоровому образу жизни младших школьников

**Библиотечная программа - $ 46.000**

**$ 20.000** – поддержка проектов-победителей конкурсов «Докомплектование фондов библиотек Республики Беларусь» и «Защита и сохранность библиотечных фондов»
**$ 12.000** – проведение семинаров для библиотечных работников
**$ 12.000** – стажировки специалистов этой области в библиотеке Конгресса США и Британской библиотеке
**$ 2.000** – издание первого республиканского журнала для библиотекарей «Библиотечный мир»

**Международная юридическая библиотека - $ 42.000**

**$ 15.000** – оборудование
**$ 26.500** – книги
**$ 500** – создание правовых баз данных

**Программа «Масс-медиа» - $ 37.000**

покупка оборудования для государственных газет

**Программа «Экономика и предпринимательство» - $ 27.000**

поддержка 7 проектов-победителей конкурсов «Организация обучения специалистов для работы в рыночных условиях» и «Содействие развитию предпринимательства»

СВАБОДА
17 чэрвеня 1997 г., № 64

# Вызвольны рух

Зянон ПАЗЬНЯК



Год палітычнай працы на Захадзе, назіранне за жыццём, сустрэчы з палітычнымі элітамі розных краінаў прымусілі мяне шмат дзе па-новаму глядзець на, здавалася б, даўно зразумелыя з'явы.

Усталяванне ў Беларусі прарасійскай дыктатуры, унутраная акупацыя краіны, камуна-фашызм, паступовая страта незалежнасці і пагроза ліквідацыі дзяржавы — усё гэта вымагае больш глыбокага аналізу сапраўдных прычынаў беларускай трагедыі, ацэнкі падзеяў і паводзінаў з пазіцыі рэальнасці.

## 1. Геапалітыка

Ва ўсіх дзеяннях, планах, пазіцыях і нават інстынктах Расіі галоўным, вызначальным і рашаючым фактарам яе паводзінаў з'яўляецца імперская геапалітыка. Беларускае кіраўніцтва не мела ніякай геапалітычнай канцэпцыі і не праводзіла ніякай геапалітыкі. Яно з цяжкасцю ўспрыняло ідэю Народнага фронта аб нейтралітэце, увяло яе пад націскам БНФ у Канстытуцыю і на гэтым спынілася, ні трохі не турбуючыся, каб зразумець, што гэта азначае і навошта яно патрэбнае.

Прынцыпы беларускай геапалітыкі, сфармуляваныя Народным фронтам летам 1990 года, былі часткова зачытаныя і прадыскутаваныя ў парламенце перад падрыхтоўкай да працы над Дэкларацыяй аб незалежнасці. Вызначаючы сваё месца ў свеце, Беларусь павінна была, на нашу думку, зыходзіць з нацыянальных інтарэсаў і наяўнасці Расійскай імперыі на Усходзе як пастаяннай пагрозы беларускай незалежнасці. Нацыянальныя інтарэсы (гэта значыць, тыя падставы, якія забяспечваюць нармальнае паўнавартаснае жыццё, усебаковае развіццё і будучыню нацыі) абавязвалі нас аднавіць, адбудаваць незалежную дзяржаву з усімі абавязковымі складнікамі дзяржаўнасці (нацыянальная валюта, войска, мяжа, мытня, сцяг, герб, амбасады, беларуская дзяржаўная мова і школа). Нацыянальныя інтарэсы абавязвалі б нас адбудаваць незалежную беларускую дзяржаву хуткімі тэмпамі, каб вынікамі незалежнасці скарысталіся сучаснікі, цяперашняе пакаленне. Інакш маглі ўзнікнуць стагнацыя, тармажэнне і нават ілюзіі вяртання назад. Таму эканамічная праграма рэформаў, прапанаваная ў 1990 г., павінна была ажыццяўляцца сістэмна, паслядоўна і неабарачальна. Таму ідэалогія беларускага Адраджэння, тая ідэалогія, якая падрыхтавала ў 1918 г. утварэнне БНР, павінна б была стаць нацыянальнай ідэалогіяй аднаўленай дэмакратычнай дзяржавы. Неабходна было даць магчымасць развівацца беларускай культуры, адрадзіць духоўныя каштоўнасці і гістарычную памяць нацыі, закласці грунт беларускай асветы і адукацыі. Нацыя павінна мець нацыянальную асобу, а асоба — нацыянальнае ўсведамленне. Адсутнасць гэтых асноватворных якасцяў ставіць чалавека па-за палітыкай. Дзесяцігоддзі расійскай акупацыі, бальшавіцкі генацыд і таталітарная практыка затармазілі і дэфармавалі развіццё беларускай супольнасці. Пераадоленне негатыўных наступстваў таталітарызму ў свядомасці магла эфектыўна ажыццявіць беларуская дзяржава. Без вырашэння гэтай духоўнай задачы немагчыма гаварыць аб дзяржаўным будаўніцтве, аб разуменні эканамічных рэформаў, аб гарантыях незалежнасці.

Зыходзячы з нацыянальных інтарэсаў, мы павінны былі б падтрымліваць прыязныя стасункі з суседнімі краінамі, забяспечыць сябе і стварыць гарантыі бяспекі для іх, стварыць умовы ўзаемаабмену, які стымуляваў бы нашае развіццё. Мы павінны былі б дакладна вызначыць нашае месца ў свеце і наш перспектыўны шлях. Гэты шлях мы акрэслілі як «вяртанне ў Еўропу»: перспектыва інтэграцыі ў еўрапейскія структуры, у сістэму еўрапейскіх эканамічных, палітычных, грамадскіх і культурных дачыненняў. Наяўнасць Расійскай імперыі на Усходзе — галоўны фактар, які прымушае нас фармуляваць актыўную геапалітыку, каб гарантаваць незалежнасць. Жыць побач з логавам звера і не засцерагчыся было б неразумна.

У 1990 г., як я ўжо адзначаў, БНФ выставіў тэзіс нейтралітэту Беларусі, маючы на ўвазе пры гэтым найперш няўдзел у ваенных блоках і палітычных саюзах дзяржаваў. Мы разумелі, што нейтралітэт для Беларусі — вельмі небяспечная справа. Штучна паставіць сябе паміж Усходам і Захадам і спадзявацца на нейтралітэт — гэта рызыка. Бо ўзнікае пагроза пераўтварэння ў «шэрую зону», у абароне якой ніхто не зацікаўлены. Тады яе, пры маўчанні сусветнай супольнасці, спакойна праглынае той, хто гэтага хоча і хто гэта можа, абгрунтаваўшы ўласнымі патрэбамі.

Нейтралітэт не мог быць доўгатэрміновай палітыкай. Ён патрэбны быў, каб прытрымаць Расію, каб стаць на нацыянальныя ногі, умацавацца і, пакуль мы слабыя, не злаваць усходняга звера.

Пасля таго, як Расія займела на беларускай вярхоўнай пасадзе свайго чалавека і пачала практычна і адкрыта рыхтаваць інкарпарацыю нашай краіны у Расію, тэзіс нейтралітэту страціў усялякі сэнс. Гэта, як ні дзіўна, цяжка даходзіла да розуму некаторых нашых палітычных актывістаў. Звер ужо выбраў сабе наш лёс і пачаў гэты выбар выконваць. Не выбраць нам, калі нас ужо «выбралі», — значыць пагадзіцца з інкарпарацыяй.

Год назад пасля першага падпісання пакта Лукашэнкі—Ельцына мной было заяўлена аб змене сітуацыі, аб неабходнасці адназначнай арыентацыі адроджанай Беларусі на еўрапейскія міжнародныя структуры (у тым ліку і на *NATO*), аб гарантыях свабоды і незалежнасці Беларусі ў супрацоўніцтве з Еўропай. Выразна і ёміста такое разуменне становішча выявіла беларуская моладзь у сваім знакамітым лозунгу: «Беларусь — у Еўропу...» (працяг не цытую).

Другі аспект беларускай геапалітыкі, прапанаванай БНФ, — стварэнне балансу сілаў. Ва Усходняй Еўропе пасля распаду СССР і ліквідацыі Варшаўскага дагавору склалася становішча няўраўнаважаных сілаў, якое хавае ў сабе ўмовы нестабільнасці: вялікая Расія з імперскімі амбіцыямі і агрэсіўным вопытам, з аднаго боку, і шэраг разрозненых краінаў Усходняй Еўропы, занятых кожная сваім дзяржаўна-нацыянальным будаўніцтвам, з другога. Тут не створана такой раўнавагі, як у Заходняй Еўропе, дзе баланс сілаў паміж Францыяй, Нямеччынай, Англіяй і Італіяй стварае грунт для раўнапраўнага існавання ўсіх краінаў у гэтай частцы кантыненту.

Раўнавага сілаў на Усходзе магла б стварыцца паміж Расіяй і скаардынаванымі краінамі Усходняй Еўропы. Беларускі народны Фронт скарыстаў ідэю Балта-Чарнаморскай асацыяцыі краінаў, выказаную яшчэ ў 1916 годзе беларускімі палітыкамі братамі Луцкевічамі на з'ездзе народаў у Лазане.

Працягам гэтай ідэі, сустрэтай ў штыкі Расіяй і яе агентурай у Беларусі, была праектная прапанова аб Балта-Чарнаморскім нафтавым калектары (аўтар яе — С.Гусак, намеснік старшыні БНФ і сябра Ценявога Кабінета БНФ). Нафтавы калектар даваў бы магчымасць краінам Міжмор'я поўнасцю пазбегнуць залежнасці ад расійскай нафты, аслабіць імперскі націск, умацаваць суверэнітэт. Адбылося некалькі міжнародных канферэнцыяў спецыялістаў у Мінску. На Украіне прыступілі да стварэння тэхніка-эканамічнага абгрунтавання праекта і пабудовы вялізарнага нафтавага тэрмінала ў Адэсе. У беларускіх колах пачынаюць асцярожны зандаж у Турцыі на прадмет транспарту нафты ў Беларусь. Украінцы шукаюць сувязі з Іранам.

Аб'яднанне сістэмы нафтаправодаў па балтыйска-чарнаморскай праектнай прапанове дало б магчымасць лягчэй уздыхнуць усёй Усходняй Еўропе. Да сістэмы падключылася б Польшча і польскія порты на Балтыцы, а таксама краіны Каўказа і Каспійскага басейна.

Праз нейкі час пасля адной з практычных канферэнцыяў па калектары ў 1994 г. бясследна знікае з усімі праектнымі і палітычнымі дакументамі намеснік галавы Народнага Руху Украіны Міхайла Байчышын. У Беларусі пачынаюць ні з таго ні з сяго лавіць турэцкіх «шпіёнаў», што ледзь не прывяло да разрыву дыпламатычных дачыненняў з Турцыяй. На Украіне зноў перыядычна пачалі абвастрацца пытанні то з чарнаморскім флотам, то з Севастопалям, то з Крымам. У Іране расійцы спрабуюць скупіць акцыі мясцовых нафтавых кампаніяў. У 1994 г. Расія пачала акупацыю Чачні.

Сярод бяздоння палітычнага бруду, карупцыі, жорсткасці і мярзоты ў гэтай подлай вайне з малалікім народам у аснове яе ляжаць расійскія імперскія інтарэсы і расійскія нафтавыя грошы.

Што тварыла Расія на Каўказе — у Грузіі, Абхазіі, Баку, Карабаху, Асеціі, Тбілісі і г.д. — вядома. Удар па Чачні і ліквідацыя чачэнскай незалежнасці і чачэнцаў павінны былі разарваць нафтавы ланцуг свабоды.

Наступны ўдар іншага кшталту расійцы планавалі на захадзе — па Беларусі. Інкарпарацыю Беларусі ў Расію пачалі рыхтаваць з сярэдзіны 1992 г. пры садзеянні ўрада Кебіча і ажыццяўляюць з сярэдзіны 1994-га пасля з'яўлення Лукашэнкі.

Беларусь ёсць «ударная кропка нумар 1» ва ўсёй імперскай палітыцы Расіі. Захапіўшы Беларусь, яна прысвоіла б сабе беларускія геаэканамічныя магчымасці, ліквідавала б верагоднасць Балта-Чарнаморскай асацыяцыі краінаў, павялічыла б свой ціск на Украіну, уплывала б на Польшчу, маніпулявала б усходнепрускім анклавам (Калінінградскай вобласцю). Пра ўсё гэта адкрыта заявіў Ельцын 6-га сакавіка гэтага года ў сваім «пасланні» расійскаму парламенту, распавядаючы, якія вялікія выгоды Расіі прынясе захоп («інтэграцыя») Беларусі.

Не менш цынічна заяўляе аб расійскай патрэбе захопу Беларусі міністэрства замежных справаў Расіі ў ананімным дакладзе, надрукаваным «Независимой газетой» (1997, 25 сакавіка). «У эканамічным плане Беларусь уяўляе для Расіі велізарны інтарэс як у варыянце інтэнсіўнага, вытворчага развіцця расійскай эканомікі, так і дзеля захавання сыравіннага эканамічнага курсу, — напісана ў дакладзе. — Саюз Расіі з Беларуссю ставіць крыж на ідэі балта-чарнаморскага санітарнага кардону».

Цяперашні лозунг расійскіх палітыкаў: «Рэванш у Беларусі за паражэнне ў Чачні», як бачым, вынікае з агрэсіўных планаў геапалітычнай канцэпцыі Расіі. Гераічныя чачэнцы, абараняючы сваю бацькаўшчыну, змагаліся таксама і за свабоду іншых, у тым ліку і за нашу беларускую свабоду, бо барацьба з Расіяй — агульная справа. Гэта разумелі ўсюды тыя, хто любіў сваю радзіму, волю і шанаваў свой народ.

*(Працяг у наступным нумары)*

# Коммуникации общественных

Независимый институт социально-экономических и политических исследований (НИСЭПИ) завершил работу над проектом «Формирование общественных лидеров в посткоммунистической Беларуси», осуществленным при поддержке Центра международного частного предпринимательства. Одна из проблем, изученных в рамках проекта, — проблема коммуникации лидеров. Она затрагивает самую суть общественного лидерства, которое состоит в способности одного человека объединить вокруг себя многих, т.е. установить связь, коммуникацию с людьми, основанную на доверии, поддержке и готовности к совместной деятельности. Однако для общественного лидера, аудиторией которого является вся страна, наладить такую связь без средств массовой информации практически невозможно. Поэтому СМИ — пресса, радио, телевидение — в современном обществе рассматриваются как важнейший ресурс любого лидера. И именно способность мобилизовать этот ресурс для эффективной реализации своих целей во многом определяет решение вопроса: быть лидеру или не быть?

## Доступ к СМИ

Само понятие мобилизации ресурсов имеет разный смысл в разных «цивилизационных контекстах». Так, в развитых демократических обществах это нормальный процесс конкуренции нескольких равноправных социальных субъектов за один и тот же набор ресурсов (например, за телевизионное время). Реалии «переходного периода» в РБ не таковы: здесь государство является центром всеобщего доминирования, а лидеры оппозиционных партий и общественных движений не могут рассчитывать на конкурсные условия получения ресурсов общества, в том числе на равный, открытый доступ к СМИ. Об этом свидетельствуют данные госстатистики и социологических опросов. В частности, сравнительный анализ статистических данных за 1993—1996 гг. показал, что в течение всего четырехлетнего периода, вместившего в себя много событий и перемен, органы власти и управления стабильно являлись учредителями в среднем 27% периодических изданий и, следовательно, контролировали доступ к ним. Но это не означает, что к оставшимся 73% периодических изданий осуществлялся открытый доступ (принцип которого: каждый голос должен иметь равные шансы быть выраженным). Ведь, кроме учредительства и соучредительства, есть и другие способы влияния на СМИ и контроля за их деятельностью. По мнению опрошенных в ходе исследования экспертов — ведущих журналистов и специалистов масс-медиа (всего было опрошено 75 экспертов) — на практике применяются формы контроля, отраженные в ***таблице 1.***

Как видим, эксперты в качестве наиболее интенсивно используемых отмечают экономические рычаги контроля. Их действенность, и, следовательно, предпочтительность, обусловлены тем, что производственная база СМИ — все типографии, передатчики, релейные линии, студии — остаются государственной собственностью. Такое положение позволяет очень быстро и эффективно наказывать оппозиционные СМИ — отказывать в услугах типографии и системы распространения, ставить редакцию перед необходимостью выпускать газету за границей или создавать собственную инфраструктуру. Популярными средствами контроля над ситуацией, по мнению экспертов, являются также: психологический прессинг на журналистов (угроза репрессий, потери работы), психологический прессинг на общественное мнение (дискредитация журналистов и независимых СМИ, ограничение и искажение информации) прямое администрирование. На этом фоне значительно более скромное место как средство контроля и регулирования СМИ занимает законодательство.

Явная и скрытая монополия государства на средства массовой информации, повсеместная практика использования неправовых методов регламентации деятельности печатных и электронных СМИ для многих общественных лидеров фактически означает блокирование их контактов с электоратом и усилий по мобилизации ресурсов доверия, поддержки, солидарности.

## Информационная вертикаль

Условием нормальной жизнедеятельности общества является постоянный обмен информацией между «верхом» и «низом», т.е. между лидерами государства, находящимися у власти, и населением. Сверху вниз поступает информация о деятельности органов власти и управления, о проводимой ими политике; снизу вверх по каналам обратной связи — информация о реакции общественного мнения на принятие управленческих решений. Однако на вопрос: «Влияет ли общественное мнение на принятие управленческих решений?» — 43,8% экспертов ответили отрицательно, и только чуть больше половины — 56,2% — отметили, что такое влияние нельзя отрицать. Экспертные оценки значимости различных источников информации для принятия управленческих решений отражены в ***таблице 2.***

С точки зрения экспертов, в наибольшей степени на принятие управленческих решений влияют результаты общенациональных референдумов и опросов, проводимых «собственными», т.е. государственными, ведомственными социологическими службами и при этом практически игнорируются данные независимых социологов. 27,4% экспертов считают, что лидеры, принимающие управленческие решения, так или иначе учитывают то общественное мнение, которое транслируют СМИ. Прислушиваются они и к суждениям самих журналистов. Однако далее, уточняя свой ответ, 41,1% экспертов отметили, что внимание к журналистским выступлениям обусловлено не столько стремлением получить дополнительную информацию для уяснения социально-экономических проблем общества, сколько стремлением «отследить», проконтролировать самих журналистов. 45,2% экспертов полагают, что журналистские выступления могут оказывать влияние лишь на отдельные конкретные решения властей; что же касается стратегического политического курса, то на него СМИ практически не влияют (только 1,4% опрошенных экс-

**Таблица 1. Формы контроля за деятельностью СМИ, применяемые в РБ, %**

| Формы контроля | чаще всего | отчасти | практически не применяются |
| --- | --- | --- | --- |
| Законодательство | 16,4 | 64,4 | 15,1 |
| Предварительная цензура | 20,5 | 57,5 | 19,2 |
| Прямое администрирование | 57,5 | 30,1 | 12,3 |
| Экономические рычаги | 68,5 | 26,0 | 5,5 |
| Психологический прессинг на журналистов | 60,3 | 30,1 | 8,2 |
| Психологический прессинг на общественное мнение | 63,0 | 30,1 | 4,1 |

**Таблица 2. Информация об общественном мнении из различных источников, учитываемая субъектами власти и управления**

| Источники | % |
| --- | --- |
| Результаты общенациональных референдумов | 46,6 |
| Результаты социологических опросов, проводимых собственными социологическими службами | 31,5 |
| Результаты социологических опросов, проводимых независимыми социологическими службами | 8,2 |
| Сообщения СМИ | 27,4 |
| Личное общение, встречи с населением | 30,1 |

# Покупка за бесценок

## Дешевый вариант интеграции

Белорусская банковская система постепенно деградирует. Однако место белорусских банков найдется кому занять — в последнее время усилилось внимание к Беларуси со стороны российских банковских структур. Ожидается, что в ближайшее время окончательные документы по регистрации «Белгазпромбанка» будут переданы в Национальный банк.

### «Газпром» пришел

Новый банк создается на базе частного банка «Олимп». Отныне абсолютное большинство акций нового банка будет принадлежать российской корпорации РАО «Газпром», а также контролируемому ею «Газпромбанку». Каждый из российских инвесторов в уставном фонде (который превышает 5 млн. ЭКЮ) будет обладать долей в 35%.

С белорусской стороны (нам остается 30% акций) наибольшая доля в уставном капитале принадлежит государственному предприятию «Белтрансгаз» — 17,27%. Следующей по величине является доля министерства по управлению государственным имуществом и приватизацией. Согласно принятому 30 мая постановлению Совета министров «О внесении государственного имущества в уставный фонд совместного белорусско-российского банка «Белгазпромбанк», в качестве своей доли в размере 12,38% от уставного фонда министерство внесет помещение площадью более 2 тысяч квадратных метров, расположенное в Минске на ул.Притыцкого.

Незначительные пакеты акций также принадлежат гомельскому предприятию по транспортировке газа — 0,19% и государственному объединению «Витебскоблавтотранс» — 0,16%.

Очевидно, что интересы «Газпрома», а следовательно, и создаваемого банка, связаны прежде всего с транзитом газа. Поэтому, вероятнее всего, банк будет работать в направлении финансирования строительства газопровода «Ямал—Европа», проходящего через белорусскую территорию, и проявлять внимание в отношении некоторых белорусских предприятий.

### Свято место пусто не бывает

Отмечая усилившееся внимание к Беларуси со стороны российских банков, стоит вспомнить, что планируется создание совместного белорусско-российского банка на базе АКБ «МинскКомплексБанк», акционерами которого станут российские АКБ «ОНЭКСИМ-Банк» и АКБ «МФК». Недавно также было зарегистрировано представительство российского «Мостбанка».

Расширение присутствия российского банковского капитала происходит одновременно с потерей интереса к белорусской экономике со стороны западных инвесторов. «Братья» обладают весьма существенными преимуществами перед западными банками — они прекрасно знают, с кем им придется работать, и согласны сотрудничать с государственными предприятиями. Западные же банки стараются работать исключительно с частным капиталом. Несмотря на постоянные проблемы белорусской экономики, российский интерес к работе со многими белорусскими предприятиями основан на уже известной российской схеме. Сначала банк дает кредиты предприятию, открывает для него счета, руководства постепенно «срабатываются» друг с другом, после чего банк активно и беспрепятственно участвует в приватизации предприятия. Эта схема, очевидно, будет повторяться и в Беларуси: наша промышленность «тихо-мирно» перейдет в руки российского капитала.

В то же время деградация белорусских банков отражается в обесценивании их капитала. Например, по официальным данным, уставный капитал всех белорусских банков только за первый квартал 1997 года сократился более чем на 36,2%. За время правления Лукашенко белорусские банки ослабли практически до такой степени, что уже не могут финансировать белорусскую экономику.

На сцену выходит российский капитал. Россия, похоже, нашла более дешевый вариант экономической интеграции, чем ей предлагал импульсивный Лукашенко. Однако средства, вкладываемые российскими банками в белорусскую экономику, очень малы, и о реальных инвестициях речь идти не может. Это не инвестиции, а скупка за бесценок.

**Алесь САДОВСКИЙ**

ДАГЕРОТИП

# Пить или не пить?

## Нет такого «гамлетовского» вопроса у белорусского человека

**Семен БУКЧИН**

В какой-то из газет промелькнуло: белорусы стали пить больше. И еще было сожаление: пьют теперь больше в одиночестве, как-то по углам. Вот раньше, в основном, в коллективе, на людях, по праздникам... Автор, видимо, ученый человек, даже употребил такой термин — «маргинальное пьянство».

И мне захотелось вступиться за пьющего в одиночку соотечественника. Ну почему же он — маргинал? Зачем его так сурово клеймить? В конце концов, мы живем (если верить конституции) в демократическом государстве. Каждый пьет так, как ему удобнее.

А ежели взглянуть на проблему с исторической точки зрения... Я пытаюсь представить себе того, первого на Земле человека, ощутившего вкус и действие алкоголя. Он, конечно, поделился опытом с соплеменниками, но, полагаю, что индивидуальное потрясение осталось его «первой любовью». А было это, если верить историческим источникам, более десяти тысяч лет до нашей эры. Это на Ближнем Востоке. А в Европу «питье» пришло, согласно тем же источникам, за шесть тысяч лет до нашей эры. Впрочем, было ли это «питье»? Может быть, это было поначалу сосание, жевание, нюхание какой-то травки, коры, какого-то плода? То, к чему мы сейчас вернулись в виде «наркоты». И десять тысяч лет назад, как и нынче, дело было не в запахе и цвете, а в «кайфе».

Собственно, для чего и пить, ежели не утратить, хотя бы частично, связи с этим опостылевшим миром и не почувствовать себя в мирах иных? Лучше, конечно, не частично, а полностью отключиться. Иначе какой смысл в питье? Это, к примеру, хорошо понимали канадские индейцы. Официальное сообщение, относящееся к 1705 году, содержит на этот счет любопытную информацию: *«Индейцы пьют исключительно лишь для того, чтобы напиться в стельку. Они называют это «полным расслаблением». Поэтому либо напиваются до потери сознания, либо не пьют вовсе. Когда же случается такая ситуация, что их, скажем, четверо, а спиртного мало, то трое отказываются в пользу одного, для того чтобы он, по-настоящему упившись, мог получить полное удовольствие».*

Читая такое, поневоле задаешься вопросом, кто же гуманнее: наши современники, побратски делящие бутылку на троих, или те, в набедренных повязках, щедро уступающие эту бутылку одному?

Что же касается нынешней утраты коллективизма в этом деле, то я полагаю, что нарекания здесь преувеличены. Первое мая, седьмое ноября — еще уважаемые у нас даты. Не говоря о Новом Годе. А тут еще президент праздников подсыпал! А поскольку упомнить все трудно, то, выпив *solo*, можешь и не прогадать.

Конечно, еще у первобытных народов питье в одиночку осуждалось. Право на это имели только шаманы, прорицатели, поэты, ну и еще некоторые личности, находившиеся, скажем так, в критических ситуациях, между прочими, старики и больные. Хорошо было пить в коллективе! Тацит описывает пьянки древних германцев: *«День и ночь сидеть на пирах и пить не считалось позорным занятием. Более того, на этих пирах вершились большие дела — мирили врагов, выбирали начальников, обсуждали важные проблемы».*

А вот в белорусском городе Борисове чиновники в неслужебное время задумали принять «по граммульке», и их с позором выгнали со службы. Я думаю, Тацит выразил бы им сочувствие. А мудрый Платон, несомненно, осудил бы их гонителей, поскольку считал, что веселье, песни и танцы и связанное с ними винопитие — лучшая жертва богам. Может быть, там, в Борисове, во время скромного пира зародились бы новые идеи по части улучшения работы «вертикали»...

Но Лукашенко еще не читал Тацита и Платона. Заметалин еще не принес ему их из своей библиотеки. А что будет, когда они вдвоем прочитают Гиппократа, его слова о *henas*, то есть энергии, нравственной силе вина, сообщающего человеку божественную власть? А потом признания Гомера о вине, «освежающем кровь»?

Не путайте проблему культуры употребления вина с проблемой безобразного пьянства! — слышу я грозный голос.

А я и не путаю. Я о том, что упадок античной цивилизации не прервал триумфального шествия Диониса по миру. И славное черногорское красное вино «Вранац» действительно веселит душу и оживляет кровь.

Что же касается этого сакраментального вопроса: «Отчего пьет белорусский народ?», то здесь, разумеется, может быть несколько ответов.

«Мали ли у меня горя, барин!», — отвечает на подобный вопрос своего помещика бунинский мужик.

А ли мало горя у белорусского народа?

Ну не нравится ему, народу нашему, президент! Чем не повод выпить?

Или напротив — так нравится, так нравится! Опять же повод...

Или вот развалился великий и могучий Союз. Такое горе одной бутылкой не зальешь.

Теперь вот Союз возрождается вроде. По такому случаю и месяц пить мало.

Опять же декреты, указы, что каждый день горохом сыплются на головы граждан. От одних зальешь с горя, от других — с радости.

Увеличили пенсию на сто тысяч рублей и одновременно цены — будь здоров — подняли.

Значит, пей сразу, как пенсию получил, до похода в магазин за хлебом и колбасой. Это будет во здравие. А потом уж сразу и за упокой. Без перерыва.

Вот и попробуй ответить на вопрос, отчего пьет белорусский народ.

Древние сказали бы: «Пьет и слава Богу!»

Гражданин суверенной Беларуси, месяцами не получающий зарплату или получающий ее видимость, имеет полное право воскликнуть:

Да здравствует свободный бюджет!

Да здравствует свободная наличность!



**Каждый пьет так, как ему удобнее.**
*(Снимок сделан возле универсама в минском микрорайоне Уручье).*

# лидеров

**Таблица 3. Источники информации о деятельности субъектов власти и управления, используемые журналистами РБ, %**

| Источники | постоянно | иногда | практически никогда |
|---|---|---|---|
| Пресс-конференции | 31,5 | 52,1 | 15,1 |
| Официальные заседания, сессии | 17,8 | 54,8 | 14,7 |
| Бюллетени, пресс-релизы, другие материалы, выпускаемые органами власти и управления | 23,3 | 45,2 | 28,8 |
| Документы организаций | 31,5 | 56,2 | 9,6 |
| Личные встречи с представителями власти и управления | 45,2 | 45,2 | 6,8 |
| Неформальное общение в «кулуарах власти» | 42,5 | 34,2 | 19,2 |
| Неформальное общение с коллегами | 67,1 | 21,9 | 6,8 |
| Местные СМИ | 28,8 | 28,8 | 38,4 |
| Республиканские СМИ | 68,5 | 27,4 | 4,1 |
| Российские СМИ | 57,5 | 32,9 | 8,2 |
| Передачи западного радио | 17,8 | 46,6 | 32,9 |

пертов отметили возможность влияния СМИ на стратегические решения). Такова картина учета и использования субъектами власти и управления мнений «снизу», в частности, транслируемых по каналам СМИ.

Не менее важна «нисходящая» вертикаль — информирование населения о деятельности субъектов власти и проводимой ими политике. Информированность общественного мнения о действиях властей в очень большой степени зависит от информированности журналистов, от того, какими источниками они пользуются. Ведь именно журналисты являются основными посредниками между лидерами, находящимися у власти, и обществом. Мнение экспертов о структуре источников, используемых журналистами, систематизировано в ***таблице 3.***

Как видно из приведенной таблицы, среди источников информирования журналистов преобладают неформальные: общение с представителями власти, обмен новостями и мнениями с коллегами-журналистами и т.п. Официальные способы получения информации ценятся журналистами меньше и используются менее интенсивно.

Любая коммуникационная сеть — сложное переплетение формальных и неформальных каналов. И одна из закономерностей функционирования сетей состоит в том, что при блокировании или дисфункции формальных каналов усиливается роль неформальных и наоборот. Так и здесь. Предпочтение журналистами неформальных связей в определенной степени объясняется недостаточностью, закрытостью, неудовлетворительным качеством информирования по официальным каналам.

В целом анализ информационной вертикали — восходящих и нисходящих информационных потоков — показывает, что лидеры, представители властных структур и управления, лишь выборочно используют информацию об общественном мнении. Они принимают во внимание в основном ожидаемую, не противоречащую их стереотипам информацию, и отфильтровывают ту, что отражает альтернативную позицию. С другой стороны, информация от структур власти и управления в направлении общественности также не отражает с достаточной полнотой действия и политику «верхов». Симптомом неполноты, частичности предоставляемой официальной информации служит описанная выше стратегия посредников коммуникации, в качестве которых выступают журналисты. Компенсируя неполноту предоставляемой официальной информации, они интенсифицируют неформальные коммуникации. Таким образом, фактически отсутствует полноценная коммуникация между органами власти и общественностью, что не может не сказаться на качестве принимаемых управленческих решений.

**Надежда ЕФИМОВА,**
*кандидат философских наук, ведущий научный сотрудник НИСЭПИ.*

Уладзімір АРЛОЎ, Генадзь САГАНОВІЧ

# Дзесяць вякоў беларускай гісторыі

*Беларусь у Рэчы Паспалітай*

## 1654. Пачатак вайны Маскоўскай дзяржавы з Рэчай Паспалітай

Калі казацкае паўстанне на Украіне, узначаленае Багданам Хмяльніцкім, абярнулася цяжкай вайною, якая знясіліла Рэч Паспалітую, у Маскоўскім царстве пачалі старанна рыхтавацца да наступу на захад. Фармальна падставай агрэсіі было абвешчанае заступніцтва за Украіну, якую на просьбу Хмяльніцкага цар далучаў да Маскоўскай дзяржавы, а таксама абарона праваслаўя ад прыцясненняў з боку «проклятых ляхов». Аднак у сапраўднасці маскоўскія ўлады кіраваліся чыста захопніцкімі інтарэсамі. Галоўны ўдар быў скіраваны на Беларусь.

Увесну 1654 года тры вялізныя арміі з трох бакоў (з Вялікіх Лукаў, Масквы і Бранска) ўварваліся ў Беларусь. На дапамогу ім Багдан Хмяльніцкі выслаў яшчэ тры палкі казакоў, якія наступалі з поўдня ўздоўж Дняпра. Разам на Беларусь абрынулася прыкладна 100-тысячная армія заваёўнікаў, укамплектаваная наймаэнымі эўрапейскімі афіцэрамі, забяспечаная новай, закупленай на захадзе зброяй, магутнай артылерыяй.

Войска Вялікага Княства, узначаленае вялікім гетманам Янушам Радзівілам, налічвала тады нейкіх 10 тысяч жаўнераў. Ці магло яно абараніць край ад такога нашэсця? Памежныя гарады і замкі былі зусім не падрыхтаваныя да вайны: без запасаў пораху і харчу, з даўно занядбанымі ўмацаваннямі. У Смаленску, прыкладам, муры мелі такія шчыліны, што праз іх пралазіў чалавек. А шляхта, якая мусіла ўтвараць паспалітае рушанне, пакідала ўсходнія раёны Беларусі ды ўцякала далей на захад.

Нягледзячы на безнадзейна малыя сілы, вялікі гетман Януш Радзівіл нейкі час даволі ўдала шкодзіў маскоўскім ваяводам, прыкрываючы галоўны шлях з Смаленска на Менск і Вільню. 12 жніўня 1654 года ён нават выйграў бітву пад Шкловам з утрая большай арміяй ваяводы Я. Чаркаскага. Аднак 24 жніўня пад Шапялевічамі невялікі корпус гетмана быў разбіты арміяй ваяводы А. Трубяцкога. Краіна засталася зусім безабароннай.

Пазбаўленыя дапамогі, беларускія гарады не маглі доўга трымацца. Некаторыя (Полацак, Невель, Рослаў, Магілеў, Чавусы ды інш.) амаль адразу паддаваліся, іншыя ж, такія як Смаленск, Віцебск, Дуброўна, Горы, Гомель, Друя, Амсціслаў, — пачалі адчайна адбівацца. Цар загадваў сваім ваяводам асабліва бязлітасна распраўляцца з кожным горадам, які, адмовіўшыся ад капітуляцыі, бараніўся, — каб, навучаныя, здаваліся іншыя. Так узорна былі пакараныя здабытыя штурмам Амсціслаў, Друя, Віцебск, а таксама невялікая Дуброўна, што паддалася, паспадзяваўшыся на царскую літасць. Затое Стары Быхаў, які разам з залогай абаранялі мясцічы і сяляне, што сышліся з ваколіцаў, заставаўся непрыступным для заваёўнікаў.



Наступ на Смаленск. З гравюры пачатку XVII ст.

У шэрагу ўсходніх раёнаў Беларусі мясцовае насельніцтва спачатку верыла заявам маскоўскіх уладаў пра тое, што вайна распачатая дзеля абароны праваслаўя, і лаяльна паставілася да царскіх ратнікаў. Аднак тыя паводзілі сябе як звычайныя захопнікі. Ваяўнікі Аляксея Міхайлавіча аднолькава бязлітасна чынілі гвалт над усімі, хто трапляўся, не зважаючы на веравызнанне, рабавалі, хапалі ў палон і выводзілі ў сваю дзяржаву. Заняўшы да глыбокай восені таго года беларускія землі з усходу ажно да Дняпра і на поўначы да Дзвіны, царскія ўлады рыхтаваліся да новых захопаў.

Беларускія сяляне з першых месяцаў вайны пачалі ўтвараць аддзелы самааховы. На акупаваных землях яны сыходзілі ў лясы, узброіваліся косамі, віламі, бердышамі ды спрабавалі абараніць ад чужынцаў свае пасяленні, перашкаджалі выводзіць мясцовых людзей у няволю, а таксама дапамагалі войску сваёй дзяржавы і часам уступалі ў адкрыты бой з рэгулярнай арміяй Аляксея Міхайлавіча. Так пачаўся шырокі партызанскі рух — першы ў беларускай гісторыі масавы добраахвотны рух супраціву, фактычна абарончая вайна народа. Асабліва актыўнымі былі сяляне Амсціслаўшчыны. Прыкладам, у ліпені 1654 года трохтысячны аддзел мужыкоў з Калеснікаўскай воласці заатакаваў пад Амсціславам армію ваяводы А. Трубяцкога, у якой налічвалася да 15 тысяч ратнікаў. На Смаленшчыне ў партызанскім руху бралі ўдзел нават праваслаўныя святары. Народная барацьба хутка ахапіла амаль усю тэрыторыю Беларусі і трывала да самага вызвалення краю.

**Г.С.**


Аблога Рэчыцы. З гравюры сярэдзіны XVII ст.

## 1 лютага 1661. Магілёўскае паўстанне

Цяжкія выпрабаванні выпалі ў гады новай трынаццацігадовай вайны Рэчы Паспалітай з Маскоўшчынай на долю Магілёва.

У ліпені 1654 года беларускі шляхціц Канстанцін Паклонскі, які перайшоў на бок маскоўцаў і атрымаў за гэта чын палкоўніка, прывёз магілёўскім месцічам грамату цара Аляксея Міхайлавіча. Маскоўскі ўладар дакляраваў, што, калі горад будзе добраахвотна здадзены, «вас, шляхту и служилых людей всяких войтов и бурмистров, и райцев, и лавников, и мещан, и всех православных христиан пожалуем нашего царского величества жалованием и велим шляхте маетностю, кто перед чем владел напред сего по привилием, подкрепити нашего царского величества жалованными грамотами». Іначай кажучы, Аляксей Міхайлавіч пацвярджаў усе правы, якімі горад карыстаўся дагэтуль паводле магдэбургскага права.

Магілёўцы маглі расцаніць царову грамату як своеасаблівую падзяку за вернасць праваслаўю і барацьбу супраць царкоўнай вуніі. Тым не менш пускаць да сябе войскі валадара суседняй дзяржавы горад не спяшаўся. Гісторыя ўжо дала беларусам багата прыкладаў крывадушнасці маскоўскіх цароў. Апрача таго, жыхары сачылі за ваеннымі дзеяннямі і ведалі, што маскоўцы паранейшаму кіруюцца тактыкай выпаленай зямлі. Яны захапілі Амсціслаў, пасля чаго з 33 тысяч жыхароў багатага места засталося жыць не больш за тры тысячы. У аблозе стаялі Крычаў (які пазней таксама напаткаў няшчасны лёс Амсціслава), Дуброўна і Віцебск.

Калі на пачатку жніўня расейскае войска ваяводы Ваяйкова і казацкія аддзелы палкоўнікаў Паклонскага і Залатарэнкі падышлі да Магілёва, яны ўбачылі, што «около де города осаду крепят и, по людям де смотря, хотят стоять и биться». Як бы на пацверджанне гэтага адпраўленага цару паведамлення, з горада зрабіў адважную, хоць і няўдалую вылазку шляхоцкі аддзел на чале з Табіянам Ждановічам і Міхалам Гініцкім.

Аднак слабасць гарадскіх умацаванняў і падыход войскаў маскоўскага ваяводы Шарамецьева паставілі магістрат перад выбарам: бараніцца, каб урэшце горад быў спалены і разрабаваны, або здацца і паспадзявацца неяк дамовіцца з акупантамі. Магілёўцы абралі другі шлях і 25 жніўня 1654 года адчынілі перад царскімі стральцамі браму.

Праз колькі дзён усялякія спадзяванні на адзінаверцаў развеяліся. Расейцы заняліся ў горадзе гвалтам і рабункамі. Як сведчаць дакументы, стральцы адбіралі грошы і зброю, коней і хлеб, насенне і кухоннае начынне. Горкая доля была наканаваная месцічам-габраям. Пад прыкрыццём размоваў пра высылку юдэяў у Польшчу захопнікі загадалі ім узяць найбольш каштоўныя рэчы і пакінуць горад. У полі выгнаннікаў абрабавалі і амаль усіх перарэзалі. На месцы гібелі большай часткі магілёўскіх габраяў іхныя землякі-хрысціяне насыпалі курган, на які потым з'язджаліся, каб аплакаць аднаверцаў, юдэі з усяе Рэчы Паспалітай.

Тым часам у стане маскоўцаў ды іх хаўруснікаў разгаралася варожасць паміж Паклонскім і Залатарэнкам. Паклонскі скардзіўся цару, што ўкраінскія казакі Залатарэнкі «приезжают де в город Могилев и чинят обиды болшие, а в уезде хлеб у крестьян ржаной, и яровой, и лошади, и всякую животину побрали». Супрацьстаянне беларускіх і ўкраінскіх аддзелаў не абмяжоўвалася ўзаемнымі скаргамі, а перайшло ў крывавыя сутычкі. Воіны Паклонскага няраз нападалі і на расейскіх стральцоў. «На твою государеву службу полковник не идет, а люди его твоих государевых солдатов в городе на карауле по воротам бьют», — пісаў цару магілёўскі ваявода Алфёраў.

Калі ў лютым 1655 года да магілёўскіх муроў прыйшло войска гетмана Януша Радзівіла, здрайца Паклонскі зноў прызнаў уладаром нашага вялікага князя. Прычыны свайго ўчынку ён растлумачыў у лісце да магілёўцаў, дзе пісаў, што спадзяваўся на вызваленне сваёй зямлі ад ляхаў, ды замест гэтага ўбачыў «лупление домов Божих, что и от татар бывало; а християн наших, которые в повседневном гонении от униатов пребывали, ныне в вечную неволю забрали, а иных помучили; а какие безделия над чесными женами и девицами чинили...».

Гетману Радзівілу не ўдалося адолець моцны расейскі гарнізон, і ён пасля трохмесяцавай аблогі адступіў. Гэта канчаткова развязала акупантам рукі. Горад быў пазбаўлены самакіравання, з жыхарамі абыходзіліся ненашмат лепей, чым з палоннікамі. Магілёўцы рыхтаваліся да помсты.

Зручны момант для гэтага з'явіўся на шостым годзе акупацыі, калі войска Вялікага Княства і Польшчы разбіла расейцаў на рацэ Басі. Пасля таго як стральцы абрабавалі на рынку магілёўскіх пякарак, цярпенне ў магілёўцаў скончылася. На загад магістрата жыхары, у дамах якіх жылі маскоўцы, выкруцілі з іхных стрэльбаў крэмні. Мужчыны дасталі са сховаў падрыхтаваную загадзя зброю. У шматтысячным горадзе не знайшлося ніводнага здрадніка, і захопнікі да апошняй хвіліны нічога не ведалі.

1 лютага 1661 года бурмістр Левановіч, што кіраваў падрыхтоўкаю паўстання, з крыкам «Пара!» выхапіў шаблю і кінуўся на стральцоў. Над местам паплыў набатны звон. Паўстанцам дапамагалі вызваленыя з астрогу нашы палонныя жаўнеры. За колькі гадзін царскі гарнізон быў знішчаны. Ад шабляў і куляў магілёўскіх мсціўцаў загінула сем тысяч захопнікаў.

Вялікі князь Ян Казімір выдаў прывілей, паводле якога шмат паўстанцаў атрымалі шляхоцтва, а горад зраўнаўся ў правах са сталічнаю Вільняй. У гонар паўстання Магілеву быў нададзены новы герб: тры вежы на блакітнай асноведзі і збройны рыцар у браме пад выяваю «Пагоні».

Апрача Магілёва беларускія мяшчане знішчылі або выгналі царскія гарнізоны ў Дзісне, Амсціславе, Себежы, Гомелі і Старым Быхаве.

**У. А.**

## 1667. Андрусаўскае замірэнне

Знясіленая за доўгія гады вайны, Маскоўшчына не магла ўтрымаць усе захопленыя ў Беларусі землі ды ўжо ў 1664 годзе прапанавала Рэчы Паспалітай распачаць перамовы аб замірэнні. Групы ўпаўнаважаных абедзвюх дзяржаваў сустрэліся ў Дуравічах на Смаленшчыне. Перамовы праходзілі марудна і малаплённа. Маскоўскія паслы спрабавалі пакінуць пад уладаю цара Полацак ды іншыя беларускія гарады, падкупіць камісараў Рэчы Паспалітай вялізнымі сумамі грошай або запужаць іх войскам, якое нават у часе замірэння ўрывалася на Беларусь.

Паступова пазіцыі Рэчы Паспалітай у супрацьстаянні з Масквой таксама слаблі. Шанцы на радыкальную перамогу ў спрыяльнай сітуацыі ў 1661—1662 гадах былі змарнаваныя. Тым часам на поўдні актывізавалася Турэччына, якая аднолькава пагражала і Маскве, і Варшаве ды прымушала іх думаць пра аб'яднанне перад асманскай Портай. У самой Польшчы распачалася вайна гетмана Любамірскага супраць караля. Дый у Вялікім Княстве дайшло да абвастрэння нутраной барацьбы паміж магнатамі. У такой сітуацыі камісары Рэчы Паспалітай пайшлі на кампраміс і 3 студзеня 1667 года, пасля трыццаці сустрэчаў з царскім пасольствам у вёсцы Андрусава, што паміж Смаленскам і Амсціславам, падпісалі дамову аб замірэнні тэрмінам на 13 з палова гадоў. 20 студзеня тэкст дамовы быў зацверджаны ўрачыстымі прысягамі ўпаўнаважаных. Так закончылася самая доўгая і стратная для Беларусі вайна.

Паводле ўмоваў замірэння, да Маскоўскага царства адыходзілі Смаленскае ды Чарнігаўскае ваяводствы, Старадубскі павет і землі Украіны да самага Дняпра. Затое яшчэ акупаваную паўночную Беларусь — Віцебшчыну, Полаччыну, Дынабург, а таксама Інфлянты Аляксей Міхайлавіч вяртаў Рэчы Паспалітай. Трактат адлюстраваў кампраміс з абодвух бакоў: Масква, хоць і не здолела ўтрымаць усё заваяванае, моцна павялічыла сваю тэрыторыю, а Рэч Паспалітая, не змогшы адваяваць усяго страчанага, вярнула найбольш важныя землі. Абодва бакі суцяшалі сябе таксама тым, што Андрусаўскае замірэнне толькі часовае, што ўмовы яго праз 13 гадоў можна будзе перагледзець.

Усе палонныя, выведзеныя за гады вайны ў Маскоўскае царства (як, дарэчы, і вывезеныя каштоўнасці), там і заставаліся на гады замірэння. Толькі шляхта, жаўнеры, духавенства і казакі з татарамі — зусім нязначная частка сярод сотняў тысяч заняволеных — атрымалі фармальнае права вярнуцца на айчыну, аднак далёка не ўсе маглі яго выкарыстаць. Куды толькі не рассылалі палонную беларускую шляхту! Яна служыла ў далёкіх сібірскіх астрогах — у Якуцкім, Енісейскім, Томскім, Ілімскім, Мангазейскім і г. д. Простых жа людзей, якіх у Маскоўскай дзяржаве звычайна пераварвалі ў халопаў, ніхто і не збіраўся вяртаць. У адной Маскве пасля вайны выведзеныя з Беларусі палонныя складалі прыкладна 10 працэнтаў пасадскага насельніцтва. Шмат беларускага люду было ў іншых гарадах царства — у Астрахані, Вялікіх Луках, Ноўгарадзе, Тарапцы, Цверы ды інш. І гэта былі лепшыя, здаравейшыя, маладзейшыя...

Беларусь выйшла з трынаццацігадовай вайны з катастрафічнымі стратамі. Яе насельніцтва зменшылася на 53 працэнты. Асабліва пацярпелі паўночныя ды ўсходнія раёны, што найдаўжэй заставаліся пад акупацыяй. Там не засталося нават трэціны ад даваеннай колькасці жыхароў! Гаспадарку, што апынулася ў жудасным стане, у знявечаным ды спустошаным краі не было каму і як аднаўляць. Каб не памерці з голаду, людзі і пасля вайны пакідалі свае мясціны ды ішлі па лепшую долю ў іншыя землі. Дзесяцігоддзямі яшчэ зарасталі хмызамі пустыя вёскі, удзірванелыя ляжалі сялянскія палі.

Вайна 1654—1667 гадоў настолькі моцна падарвала Беларусь, што наступствы той трагедыі яшчэ на адно стагоддзе вызначалі дэмаграфічнае, гаспадарчае і культурнае аблічча краіны. Да катастрофы, перажытай тады беларускім народам, сыходзяць вытокі і многіх яго цяперашніх бедаў.

**Г. С.**

